*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЁВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

№ 2 (22). Люты 1928 г. № 2 (22).



Новая электростанцыя у м. Конданаве, Менскае акругі, пабудаваная ў гэтым годзе.



## У сельсавеце

С. Ліхадзіеўскі

Шэраг зім, шэраг летаў, вёснаў
Прамінае ў працягу гадоў...
Сярод белых абшараў вёска,
А у вёсцы драўляны дом.

Дом драўляны, вясёлы новы,
І акрэплены пахам смалы.
Гэтым месцам, ня так даўно вось
Ветры зімнія сьнег мялі...

А цяпер новы дом на ўзвышшы
Стаіць горды, да сябе заве.
На яго шыльдзе хтосьці вышыў
Фарбай чырваньню слова „Савет“.

А у доме яловыя сьцены
Увэбраны плякатамі скрозь.
Сівы дым папяросы сьцелюць,
Звонкіх слоў у паветры рой.

За сталом старшыня савету,
За другім сакратар-селянін;
На іх тварах вясёла-ветлых
Сьлед пакінулі ўцекшыя дні...

І заходзяць—ідуць у домік
У звычайных з лазы лапцях.
Не бяз справы яны вядома,
А з патрэбамі іх жыцьця.

Таму трэба аддаць падатак,
Таму дровы патрэбны, лес...
Ды ці мала жадаюць хаты,
Ды ці мала патрэб на сяле?!

... І расьце ветла-новая вёска,
І расьце скрозь за домам дом—
Шэраг зім, шэраг летаў, вёснаў
Прамінае ў працягу гадоў.

# Падарожны

## І. Дубок

Усё мела аднальковы выгляд. Бела і бела па бязбрэжным прасторы поля. І не разабраць было, дзе дарога, дзе вёска.

Але ня гледзячы на такое надвор'е, якое сапсавалася так пад вечар, па дарозе поўз падарожны, гадоў пад сорак.

Адзеньне на ім было благое: боты з чырвонага вырабу, сялянскі кажух і чорная зімовая шапка з авечай скуры. За плечамі вісела невялічкая скураная торбачка і ў руках дубавы друччок.

Звалі гэтага падарожніка Цітам, а па прафэсіі, акрамя земляроба, яшчэ і столярам.

Гарны быў столяр, ой гарны! Калі адмайструе якую небудзь рэч, дык што твая машына: чыста, гладка, ажно любата глянуць.

Апошнія тры месяцы ён працаваў у горадзе бо вядома, не заўсёды была праца дома, а есьці хацелася, сем душ сям'і а работнікаў толькі ён адзін і ня гледзячы на ўсякія, такія заработкі дома ўсё-ж такі жылося дрэнна. Жонка яго, Агата была хваравітая жанчына і на гэтую хворасьць, на яе лячэньне ішлі бадай усе сродкі.

Прачытаў ён аднойчы ў газэце, што ў горадзе пачынаюць будаваць рабочыя пасёлкі і рашыў папрабаваць шчасьця ў горадзе. Яму падвязло, яго прынялі на работу, якую ён выконваў акуратна і зьдзельна.

Становішча яго зразу стала лепшым. Кожны месяц ён адсылаў дамоў шэсьдзесят рублёў, а сабе пакідаў столькі, каб магчыма было пражыць.

Тры месяцы працаваў ён бяз упынку. Не глядзеў ён, а ні на якія сьвяты, абы зарабіць лішнюю капейку і зарабляў.

— Яшчэ работы на месяц—думаў сам сабе Ціт, а тамака можна і да дому адправіцца, але вышла зусім інакш.

Скончыўшы нейкую работу, ён сеў на сталярны варстат адпачыць, а ў гэты час паштальён прыносіць яму тэлеграму такога зьместу:

„Жонка знаходзіцца ў дрэнным становішчы сьпяшайся, дамоў"

Атрымаўшы такую няпрыемную вестку ён кінуў працу ля поўдня і разьлічыўшыся на палавіну—вышаў з гораду пяхтурай.

Ціха было ў паветры, але марозна. Дарога роўная, гладкая, хоць ты каціся.

Палавіну дарогі было пройдзена.

Падзьмула халодным сіверам і што раз усё мацней і мацней.

Але Ціт крапіўся.

Дарогі ані сьледу, вёскі ці якога небудзь пасёлка таксама ня было, а лес мо' дзе і быў блізка ля дарогі, ды дзе-ж ты яго ўбачыш у такую завіруху.

Пачынала цямнець. Яшчэ прайшло хвілін дваццаць і кругом наўкола было бязбрэжнае белае поле, замяць і больш нічога.

Ціт спалохаўся, яго ахапіла нейкая жуда.

Мацнуў ён сваім друччком раз, другі і зразу зразумеў, што ён ужо зьбіўся з дарогі.

Вяртацца назад ня было магчымасьці. Дзе цяпер перад, дзе назад,—ён ня ведаў. Цэлыя воблакі сьнегу ўздымаліся ўгару, круціліся, гулі, гінулі на момант і зноў уздымаліся.

Спыніўся Ціт на хвіліну, пастаяў, падумаў і вельмі пашкадаваў, што не паехаў цягніком.

Але тэлеграма жонкі, як агнём пякла яго нутро і ён рушыў уперад. Куды-б ня йсьці, але ісьці, абы не стаяць на адным мейсцы і гэтая хадзьба куды небудзь прывядзе ці да жыцьця, ці да згубы.

Колькі прайшло часу, як сьцямнела, Ціт ня ведаў, не хацеў ведаць. Ён мясіў глыбокі сыпучы сьнег і ўвесь час думаў, каб як найхутчэй дабрацца да якога небудзь селішча ці лесу.

Ціт некаторы час яшчэ варушыўся, яшчэ поўз, а потым зноў спыніўся, бо ня мог ужо далей ісьці, ногі адказваліся ад далейшай хадзьбы і ён прысеў на сьнезе.

Друччок яго выпаў з рук і кудысьці загінуў і колькі ён ні шукаў, але знайсьці ня мог.

Ён добра ведаў, што ні ў якім разе нельга спыняцца, а трэба ісьці.

Ціту ўжо здавалася, што ён ідзе цэлую вечнасьць і што гэтай хадзьбе ніколі і канца ня будзе, як і таму, што на зямлі няма нідзе аніякай жывой істоты.

Ён ужо не адчуваў ні холаду, ні змору ў той час, калі яму здавалася, што ён ідзе, варушыцца.

Яму так стала хараша, так цёпла і ня дзе небудзь ён знаходзіцца, а сярод роднай сваёй сям'і, у сваёй роднай хаце, дзе яго абступілі дзеці, дзе яго так доўга чакалі і што яго жонка Агата апранулася ўва ўсё белае адзеньне для яго прыходу.

Потым дзеці сьцягнулі з яго ног абутак, а жонка кажух і ён палез на печ, каб абагрэцца.

Цела-ж Ціта было завеяна, замець накруціла сьнегу і сьпявала свае песьні.

II

Вышаў стары Пранук на панадворак ноччу, зірнуў ва ўсе бакі і зноў схаваўся ў хату. Сказаў бабе:

Ну і надвор'е, дык надвор'е. Благому чалавеку ня вычу яго. Думаў даць сена каню, дык куды там, сьвету белага ня відаць.

— Мяцеліца!

— Ды такая яшчэ, што нічагусенькі перад носам ня відаць. Трэба хіба ліхтар запаліць дый ісьці.

— Ня йдзі ўжо, зараз дзень, бо падпечны гадзіньнік прапеў ужо трэці раз.

Скінуўшы вопратку і абутак, Пранук палез на палаткі, дзе хутка і смачна заснуў.

Калі ён прачнуўся, дык дзень углядаўся ў вокны і на панадворку было ціха, як у вусе. Навалены занач сьнег, ляжаў вялікімі гурбамі і першыя праменьчыкі сонейка заіскрыліся на ім дыямэнтавымі пералівамі.

Закурыў Пранук люльку, адзеўся і вышаў з хаты.

Сонца было амаль што не на паўдні, калі ён прышоў у хату.

— Ось ночка, дык ночка!

— Чаму?

— Што яна нарабіла-а-а! Насілачку раскідаў сьцежкі. Калі хто быў у дарозе гэтай ноччу, дык досыць з яго хапіла. Яшчэ добра, калі жывым застаўся, а то мо' і замяло.

— Унь Іван Самусёў, то чуць прыехаў з лесу, а ўсяго якіх небудзь тры вярсты. Каб ня Мурза, казаў, дык зьехаў-бы нямаведама куды, а так сабака выслабаніў з бяды.

III

Дзеці Ціта і яго швагер, доўга чакалі яго і вельмі непакоіліся, што прайшло ўжо тры дні, а Ціта ня было.

Яго жонка Агата так і не дачакалася, памерла, пакінуўшы сем душ дзяцей.

На чацьвёрты дзень яшчэ досьвіткам запрог швагер Ціта свайго Буланага і паехаў у горад, каб увазнаць, чаму ён ня прыехаў заўчасу дадому і ці атрымаў ён тэлеграму?

— Якое-ж яго было зьдзіўленьне, калі ў яго запыталіся ў канторы:

— А ці-ж яго няма дома?

— То-та, яно-та, што няма.

— І ня быў?

— Я-ж кажу, што ня быў, бо каб быў, дык я не паехаў бы сюды да вас даведвацца за сорак вёрст, а тут яшчэ, як на тую бяду і жонка памерла, пакінула сем душ дробных дзяцей. Цяпер рабі, што хочаш з імі. Бяда дый толькі?

— Цікава! Ён-жа чатыры дні таму назад атрымаў тэлеграму, разьлічыўся на палавіну і пакінуў нашу арцель, кажучы, што праз тыдзень будзе зноў тут.

— Так, знацца загінуў ідучы, ці хто забіў ды абрабаваў, ці ўюга замяла. Што-ж мне рабіць цяпер?

— Заявіць у міліцыю, каб яна ведала, што тады і тады загінуў чалавек, а па другое папытайцеся аб ім у тых вёсках, праз якія будзеце праяжджаць.

Час ішоў.

Ужо на палёх пачалі паказвацца сям там лапінкі зямлі.

У ясны сонечны дзень ішоў вартаўнік лесу праз поле і наткнуўся на загінуўшага Ціта.

Пры аглядзе нябожчыка ў адной кішэні знайшлі скураную кашулку, у якой было сто рублёў і зложаная тэлеграма.

Увечары на другі дзень быў вясковы сход. На ім абгаварвалі розныя вясковыя справы і ў бягучых справах крануліся загінуўшага.

— Мужчынкі!—гаварыў стары Пранук. У сьмерці гэтага чалавека вінаватыя мы, мы яго загубілі і ў першую чаргу сельсавет наш, бо ён-жа гаспадар у нас. Сельсавету трэба было зрабіць распараджэньне ўсім нам, каб мы абазначылі яшчэ перад зімой хваёвымі галінкамі дарогу.

— Правільна!—гукнулі ўсе, як адзін.

— Цяпер вось яго швагер Сымон кажа, што ў нябошчыка засталося сямёра малых дзяцей, бо жонка нябошчыка памерла, што з імі будзе рабіць Сымон і што ён можа зрабіць, чым дапамагчы, калі сваіх дзяцей шэсьць штук, ды яшчэ дзьве сястры. Каб яны не зрабіліся бяспрытульнымі, трэба нам узяць траіх. Дапаможам.

— Дапаможам.

Вёс. Сяргеевічы.



# Зімой у вёску

## Міхась Багун

Зіма! Пагоняй белаю
Сьняжынкі сьцелюць шлях.
Завеяй ашалелаю
Вятрыска загуляў...
Як малако разьлітае—
Бялее шыр палёў,
Мяцеліцай абмытыя
Страчаю бель сьнягоў...
Дарогі пахаваліся...
Сьлядоў—нідзе няма...
Камусь на нешта жаліцца
Кудлатая зіма...
І каменем ў памяці:
— Апошняя вярста!..
Вось праз лíхія замяці
Агончык заблістаў...
Туманнай коўдрай сьцелецца
Сьнягоў бялявых радь
І думкі, як мяцеліцца,
У галаве віхрадь:
— Прыду дамоў і любую
Матулю абніму,—
Яна кашулю зрэбную
Там латае камусь...
З сваёй усьмешкай— Казкаю
Павернецца ка мне
І скажа, гэтак ласкава,
Страсі, Міхаська, сьнег!
Што, мусіць зноў са сходу ты,
Сыночак мой, ідзеш?
Глядзі, бо сход, мой залаты,
К дабру не прывядзе!!!
... Эх мама! Шмат разоў ці не
З табой я гаварыў?!
Пара табе запаланець
Албіткам тэй зары,
Што над краінай з кожным днём
Крышталіцца—расьце,
Што буйна-радасным агнём
Ліецца на ўвесь сьвет!
Я ведаю: гады прашлі
(Ёй пяцьдзесят цяпер)
І можа заўтра ці калі
Яе спаткае сьмерць...
Ды вось таму я так хачу
Прад ёй забіць ў звон—
Яна павінна зноў пачуць
Аб тым, як мы жывём!
І вось таму я ёй скажу
Вянкамі простых слоў:
Мы, мама, вышлі на мяжу
Саўсім другіх вякоў!—

---

# Сінявокі таварыш

## С. Брыцька

— Капаеш?

— Капаю...

— Трэба і мне пачынаць... А мо' ў цябе тут прыткнуся? Памог-бы капаць...

— Ды ўжо-ж неяк зьмяркуемся...

— І што гэта будзе?

Станавіліся на беразе вялікай чатырохкутнай ямы і тупа ўгледзіўшыся ў жоўты вільготны чвір, па некалькі раз гаварылі на розныя лады: „што гэта будзе?“.

Па вёсцы поўзалі нядобрыя чуткі... Пад уплывам гэтых чутак, на вуліцу выходзілі з палахлівым ўлішых у зямлю, хатак сяляне і сабраўшыся ў кучу з трывожнымі тварамі аб нечым горача гутарылі, але гутарка зводзілася на тры словы: „што гэта будзе?“.

Ведалі сяляне, што ніхто ня дасьць ім адказу на гэтае пытаньне, але ўсё-ж такі аб ім гаварылі ўсюды, бо яно было нечаканым і жудасным.

Гэтакай вёска была з тыдзень.

Пытаньне вырашылася... Раптам...

Быў душны летні поўдзень.

Вёска замёрла ў напруджаным чаканьні. Мужчыны сланяліся па вуліцы: праца валілася ў іх з рук. Пыльная вуліца дыхала духатой і кіслым сьвінячым гноем.

Г-г-г-ууў...

Гулка ахнула нешта і раскацілася рэхай па лесе.

Ррэ-хрэ-ррэххх-яў яў...

Над вёскай нешто заскрыгітала, нібы іржавым жалезам аб жалеза і вялізны чорны слуп узьняўся на поплаве, сярод копаў сена.

Страшэнны гук усхваляваў паветра.

Замітусіліся людзі...

Нехта дзіка крычаў: „кладзіся“, бабы лямантавалі, а стары, сляпы дзядок звываў курэй.

Другі раз уздрыганула паветра... трэці... і сьціхла.

# У змаганьні

*Успаміны*

**Р. Шукевіч-Трацьцякоў**

Здань комунізму лунае па ўсім сьвеце,клічучы прапоўных на зьмаганьне супроць сваіх векавых прыгнятацеляў.

I

У адну дружную масу зьмяшаліся на вуліцах Мюнхэна пераможцы і пераможаныя, баварцы і рознаплямённыя ваеннапалонныя, у пачатку лістапада 1918 г., у самым пачатку нямецкае рэволюцыі.

На Паўночным вакзале натоўп маладых („старыя“ заселі ў лягерах) ваеннапалонных абкружыла кучку вартавых. Рускія, ангельцы, французы, сэрбы, італьянцы перакідваюцца з вартаўнікамі кароткімі сказамі. Мала слоў у гутарках, але многа ўсьмешак, красамоўных мігаў, часта чуецца „камрад“ (прыяцель). Пазнаю сярод палонных некалькі знаёмых, з якімі горача спрачаўся ў першыя дні іх палону аб вайне да пераможнага канца, аб „бошах“ (каўбасьніках—так насьміхаліся французы над немцамі), у апошні час—аб бальшавіках. Колькі пагарды і ненавісьці было тады ў словах палонных. А цяпер...

— „Пажыўшы ў вёсцы і папрацаваўшы на скураной фабрыцы, я пераканаўся, што большасьць баварцаў—слаўныя хлапцы“—сарамліва прызнаецца малады капрал.

— „А слаўны такі твар у гэтага вартаўніка“, паўтарае за ім скрозь зубы заядлы футбаліст-ангелец, які яшчэ пяць месяцаў таму назад запэўняў мяне, што ён ніколі ў жыцьці не даруе немцам таго голаду і зьняваг, якія яму давялося перанясьці ў Нямеччыне.

І сапраўды слаўны, вясёлы твар у гэтага высокага юнака ў шапцы з сарванай прускай какардай. Слаўны, знаёмы. Дык гэта-ж Франц, з якім паўтара гады назад мы працавалі ў Фэльдкірхэне на маслабойным заводзе міліонэра Майэра!

— „Эй, Франц! З якой гэта пары ты зрабіўся рэвалюцыянэрам? Ты-ж яшчэ нядаўна гатовы быў выдрапаць вочы таму, хто неспагадліва будзе гаварыць аб кайзэры Вільгэльме або фельдмаршалу Гіндэнбургу“, клікнуў я яго.

---

Апусьцела вуліца. Людзі распаўзьліся па раней выкапаных ямах.

З гэтага і пачалося...

Вечарамі за ляском адзінока шчабятаў кулямёт; зьнянацку порстка шлопалі вінтоўкі. Недзе далёка-далёка лопалі шрапнэлі, пырскаючы ва ўсе бакі іскрамі. За лесам мелёдычна пеў польскі ражок.

Прыгожа і жудасна...

А вечары былі душныя, пахкія... мужчыны сядзелі на прызбах, гутарылі ўспамінаючы...

...І за вошта гэткая пакута?

* * *

Вёска поўна чырвонаармейцаў.

Наступаюць.

Брудныя, абшарпаныя чырвонаармейцы забягаюць у хаты.

— Картошкі-бы...

Выходзяць і нясуць у прыполах гарачую бульбу.

У нас цэлы дзень палілца печ. У печы саган бульбы: што-ж варыць іначай, калі хлеб увесь на полі?

У хату забягае малады чырвонаармеец. Шынэль цераз плячо; у руках вінтоўка; шэры ад пылу твар.

— Мамаша, картошкі-бы...

Голас хрыплы, адрывісты. Даўно, відаць, карыстаўся ім чырвонаармеец.

— Яшчэ сыраватая...

— Нічога... Жраць ахвота...

Маці дастае саган і высыпае бульбу на стол. Чырвонаармеец хапае прагавіта, — апякаецца, зноў хапае і смачна чаўкае моцнымі пашчэнкамі. Углядаюся ў худы, квадратовы твар, укрыты шчацінай нявыразнага колеру. Глыбока запаўшыя вочы глядзяць недзе прад сабой. Зрок расшыраны і нярухомы...

Па прывычцы, бацька пытаецца аб радзіме.

Задумённасьць спадае з твару чырвонаармейца, заіскрыліся сінія вочы.

— Уладзімерскі...

Сказаў і моцна ўздыхнуў. Успомнілася родная вёска, бацькі...

Казалі вочы аб гэтым...

...І за вошта гэткая пакута?

— „З тае пары, як я паступіў у армію, ды на ўласнай скуры праканаўся ў праўдзівасьці тваіх слоў, што вайна выгадна толькі міліонэрам“—радасна крычыць Франц праз галовы акружаючага яго натоўпу.

Моладзь хутчэй за старых усьвядоміла, хто яе клясавы вораг.

II

Густымі клубамі ўзьнімаўся ў неба, нараньне 7-га жніўня 1919 г., туман з ляжаўшага перад намі поля, пакрытага зжатымі, але яшчэ ня складзенымі ў копы снапамі. Ззаду ад нас—Слуцак, вакзал з сотнямі вагонаў каштоўнае маемасьці, якую абавязкова трэ' было абараніць і вывезьці. Наперадзе, за рэчкаю—пазнанцы. Але што гэта? Ці я асьлеп? Не, снапы пачынаюць павольна варушыцца і пасоўвацца наперад: ноччу пазнанцы пераправіліся праз рэчку і цяпер пачалі наступаць. Дружна сустракаем гасьцей і пасьля некалькіх атак адбіваем ворага і адганяем яго, пры дапамозе падасьпеўшых з Бабруйску сьвежых сіл, вёрст за 20. Зморанымя, сабраліся мы ўвечары адпачнуць.

— „А хібі-ж яны таксама былі з намі?“—зьдзіўлена пытаюся я, гледзячы на двух падросткаў—беларуса і яўрэя, якія гнуліся пад цяжарам вінтоўкі.

— „Так, гэта комсамольцы. Яны прышлі на наш вучастак уначы. Шкада, што ня бачыў, як стралялі яны, стоячы, бяз прыкрыцьця, у пайшоўшых на „ура“ пазнанцаў“, тлумачыць блізка бачыўшы іх у бойцы таварыш.

Гэтыя таксама ведалі свайго клясавага ворага.

III

Ведаў яго добра і той дабраахвотнік —піцерскі комсамолец, які дагнаў нас у Ямбурзе, калі мы да самае Нарвы гналі рэшткі арміі Юдзеніча. Сваім прыкладам юнак заражаў акружаючых, іграўся ў самыя небясьпечныя месцы і паклаў сваю юнацкую галаву ў адзін з нараўскіх штурмаў.

Калі ў выніку нараўскіх баёў, у студзені 1920 г. быў падпісаны мір з Эстоніяй,—наша першая перадышка,—за трупам комсамольца прыехаў бацька, стары бальшавік-рабочы.

— „Я ганаруся, што мой сын загінуў з вінтоўкаю у руках, бароначы тую справу, за якую я ўсё сваё жыцьцё змагаўся. Я пэўны, што не дарма загінуў мой сын, што вы, яго сябры, давядзеце агульную справу да пераможнага канца“.

---

Пад'еў, устаў з-за стала.

— Можа ў апошні раз!..

Рэзка абрысаваныя мускулы вуснаў, злажыліся ў усьмешку крыўдную, поўную злосьці на таго, супроць каго ён ідзе.

А чырвонаармейцы ўсё ішлі. Цягнулі кулямёты, якія цыгікалі нямазанымі калёсамі. У іх шэрагі ўліўся і вышаўшы ад нас чырвонаармеец.

. . . . . .

Вечарам у вёску прывезьлі на залітых крывёю падводах, ахвяры наступленьня. Быў тут і той чырвонаармеец...

Кулямётам перарэзала яму паясьніцу...

Ціха ляжаў ён, бяз крыку, бяз енку...

Шчокі ўпалі, нос завастрыўся і вочы блішчэлі мёртвым, шкляным бляскам. Старэнькая бабка пацінулася да воза, з шклянкай малака ў руках. Чырвонаармеец прагна пачаў піць, але не дапіў і паўшклянкі, як малако белымі струйкамі пацілася з роту за карак.

— Пісьмо напішыце... адрас... на шыі... Усхамянуўся і зноў змоўк. Захліпалі бабы, моцна смаркаючыся ў ражок хустак.

Кроў, капля за капляй сьцякала з калёс, афарбоўваючы шэры вулічны пыл!

Павезьлі параненых далей, у шпіталь.

Народ паволі разыйшоўся, і толькі чырвоная пляма на вуліцы, сьведчыла аб рана загубленым жыцьці.

Але дзякуючы гэтаму наступленьню, вёска супакоілася. Палякі былі адбіты.

. . . . . .

Чырвонаармеец памёр, не даехаўшы шпіталя. Пахавалі яго за вёскай, каля бярэзьнічку. Магілку дзяўчаты абсадзілі кветкамі, дрэўцам...

Кожны раз праходзячы каля гэтай магілкі, успамінаецца худы, курносы твар, белыя валасы, і сьветла-сінія вочы...

І магіла гэтая заўсёды поўніць сэрцы тутэйшых сялян радаснай удзячнасьцю слаўным змагаром за новае жыцьцё.



Закладка новага будынку ў санаторыі „Чарніца“

# Беларуская санаторыя „Чарніца“

Адам Кірчэўскі

За тры вярсты ад мястэчка, Лёзна, Віцебскай акругі ў былым панскім маёнтку, сярод хваёвага лесу, стаяць некалькі будынкаў. Гэта санаторыя—„Чарніца“—для дзяцей хворых на сухоты касьці.

Вакол хваёвы лес, тут-жа цячэ рэчка, на якой, непадалёку ад санаторыі, стаіць вадзяны млын. Таксама зусім блізка каля санаторыі праходзіць Маскоўска-Беларуская чыгунка, па якой грымяць паязды.

„Чарніца“ — паказальны электрофікаваны пасёлак, ён з кожным годам пашыраецца. У лютым месяцы мінулага году пачалі рабіць новы будынак пад санаторыю а 7-га жніўня гэтага году адчынілі яго. У той-жа дзень зрабілі закладку фундаманту на вялікі каменны двухпавярховы будынак, які думаюць скончыць да 11-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі. Будынак гэты намеркаваны на 100 чалавек.

Новы корпус санаторыі будзе зроблены з лябораторыямі і ўсімі патрэбнымі рэчамі для лячэньня хворых на сухоты касьці.

У гэтым годзе зроблена агульнае памяшканьне для дактароў і служачых—для работнікаў санаторыі.

Гэта ўсё—адзнака таго, што наша гаспадарка, наша дзяржава мацнее і праз нейкі час установы аховы здароўя здолеюць забясьпечыць усіх хворых дзяцей на Беларусі выключным санаторскім лячэньнем.

Дзякуючы стараньню загадчыка санаторыі праф. У. А. Бэцехціна, санаторыя з кожным годам пашыраецца. На адчыненьні санаторыі праф. Бэцехцін У. А. казаў, што з 39 панскіх маёнткаў Віцебскай акругі Чарніца, паводле думкі спэцыялістых больш адпавядала перайсьці пад санаторыю: яна мае добрую ваду, сухую пяшчаную глебу і хваёвы лес. Да сьнежня месяца 1927 году ў санаторыі было 65 мясцоў, але цяпер пачалі прымаць у новы будынак, у які зьмесьціцца 35 чалавек.

Хворыя, прайшоўшы курс лячэньня ў санаторыі, шлюць работнікам санаторыі падзякі.

Селянін Грышкевіч Клім, з вёскі Паляны Самахвалаўскага раёну, Менскае акр., паехаў дамоў зусім здаровым. Ваўчок з Слуцку ня мог хадзіць, калі прыехаў у санаторыю, а паехаў назад бяз мыліц і пастаронньяй дапамогі. Піша цяпер, што вельмі добра сябе адчувае, ходзіць у школу і г. д.

Чарніца ня толькі лячэбніца, але і школа. Лечачыся ад сухот касьці, дзеці тут і вучацца



У мінулы час вайны—нямецкае войска ў Кіеве перад прыходам Чырвонай арміі.



Савецкі вайсковы самалёт.



Чырвоная армія—школа культуры. На гэтым здымку—чырвонаармейцы ў бібліотэцы бяруць кнігі.

# Чырвоны і белы

## Т. Кляшторны

З-за цёмнага бору ўзьняўся туман
Трывожна гарцуе расійскі улан.
Ангельская зброя, шынэль і штаны...
Не смачны улану чужыя бліны.
Дзесь піша Калчак, а загадам загад:
„Вярнуць у Расеі дваранскі урад!"
А дзесьці далёка між гор і бароў
Улана сям'я падждае дамоў.
Пад першыя сьвечы вячэрняй зары
Дзесь плачуць аб ім над ракой хутары.
Дзесь маці старая ў тэй старане
Сібернаю долю і белых кляне.
Дзесь бацька працуе на панскай зямлі...
... Адвечную песьню пяюць тапалі...
Ангельская збруя, французкі шынэль...
Пужае ўлана далёкае мель.
З-за цемнага бору ўзьняўся туман...
З трывожнаю думкай гарцуе ўлан
Бо хмары навісьлі, нябачна дарог,
І коньнік чырвоны гарцуе ў палёх...
Парваныя боты, расхрыстан шынэль.
Не страшна чырвонаму дальняя мель...
... Далёка далёка зарніцы гараць...
Не страшна за справу ў баі паміраць,—
Бо там за кардонам, між рэк і гаёў,
Кляне дзесьці маці няўчэмных паноў.
Не бачна дарогі, туман і туман...
Спаткаўся з чырвоным расійскі улан.
Заплакала куля ў начной цішыні...
Няўседзіў расійскі улан на кані:
Зваліўся параненым—раненым паў,
І роднага брата ў чырвоным пазнаў...
Далёка, далёка ў тумане зямлі
З сьмяртэльнае балі вароны плылі.
А дзесь партызаны між гор і між скал
Вялі да чырвоных тады Калчака.



Уваход Чырвонай арміі ў Менск





Пераход атрадаў Чырвонай Арміі праз раку Буг, у часе вайны.



Пушка, зробленая с[illegible]





Чырвонаармейцы вучацца граць на фортэпіане.

# У маладзіковую нядзелю

**Сымон Баранаў**

Пякучы дзень. Хочацца піць.

І ў Фруцкай ні на адну хвіліну не зачыняюцца дзьверы. Ведзяр з пяць прынесла яна вады, а яе ўсё-ж не хапае.

— Чорт яго пойдзе больш,—рашуча кажа Фруцкая, ставячы ў сенцах вядро з вадою,—рукі ўверадзіла,—зьвяртаецца яна да чаргі, што выстраілася—хоча сагнаць смагу.

Цiт, які сёньня прадаў карову і ўжо выпіў барыш, пад гэтую гарачыню, першы выцягнуў дзьве конаўкі халоднае вады. Ён цяпер абцёр свае доўгія вусы і накіраваўся да мястэчка.

— Трэба што-небудзь купіць хоць з дробязі,—разважаў Цiт, падыходзячы і гледзячы на кірмаш, які варыўся варам.

Першае, што папалася Цітаваму позірку на мястэчку, гэта колы. Праўда, ён ня думаў іх купляць, але праходзячы каля калёсьніка, застанавіўся.

— Колькі просіш вось за гэтыя, патрэсканыя?—кінуў ён калёсьніку, пастукваючы колам аб сухую зямлю.

— Пятнаццаць за стан,—адказаў той, пыхкаючы люльку, гледзячы цераз галаву Ціта ў невядомы міжвольны пункт.

Ціт праціскаўся далей.

— Каму боты новыя, хромавыя?!

— Каму галіфэ?!

Каму ножыкі магнітныя... каму...—наўсьцяж адзін перад другім, выкрыквалі местачковыя гандляры і Ціт, учапіўся за боты.

— Не тандэтныя?—колькі?—пачаў ашчупваць з прыстрочкі.

— Браток! каб я век такія прадаваў!—начаў гандляр добра вывучаную ім цэрамонію,—на заказ шыў... ведаеш-жа можа Ліпніцкага,—дык яго хлопцу... Ён абы якіх не закажа... О-го брат!

Але Ціт няведаў ніякіх Ліпніцкіх, для Ціта было ўсё роўна.

— Няхай драпежыцца тваё нутро, а я не хачу, ня куплю,—мільгацела ў Цітавых думках.

— Падэшва разьлезлая,—сьлінячы яе заўважыў Ціт, каб адчапіцца ад гандляра, ад ботаў; але вось з заду нехта палажыў руку на яго плячо.

— Ды ці ты гэта?!—Апанас!—азірнуўся Ціт.—А бадай цябе цяміла. Вось дык не чакаў...

І старыя дружакі моцна пацалаваліся.

Гутаркі ў старых дружакаў (служылі некалі разам), было шмат. Ціт расказваў як цяпер жывецца яму; як пагадаваліся, вырасьлі яго сыны. Апанас расказваў, як ён разлучыўся з сваёю Агатаю і цяпер ажаніўся на Настулі—Ціту незнаёмай. Вядома што шмат было гутаркі: пяць гадоў ня бачыліся, шмат зьмен утварылася. Дружакі былі рады сваёй сустрэчы.

Пякучае паветра напаўнялася шумам местачковага кірмашу. Гэты шум, бы на адным мейсцы, стаяў застыўшым.

Тут Арына купляла рэшата і бажылася-клялася, што яна аніяк ня можа набавіць грыўню, якую вымагаў ад яе рашотнік. Там нема пішчала на чым сьвет стаіць, парасё—якое купіў Мікалай, ды нёс на аберучках. А там конскія гандляры, Гарбуз з Перапечкам, наярвалі пугаю каня, які чуць набадры ўжо цягаў. Яны таксама клаліся і бажыліся, што конь—каб да веку гэткія мецъ! І нізенькі, з чорнаю бародкаю чалавечак, які ўжо каля дваццаці разоў абыйшоў і абшчупаў гэтага каня, не разумеў каму верыць:—ці сваім вачом, ці Гарбузу з Перапечкам, якія,—дайшло да таго,—кляліся чуць не сваімі дзяцьмі.

Невядома колькі-б яшчэ прастаялі Ціт з Апанасам у сваёй гутарцы, як да іх раптам далучыўся Андрэй.

— Ціт, дык чаго ты марнееш на сонцы—сушыш горла?—запытаў Андрэй.

— А дай жа рады! Гэта-ж з зямляком сустрэўся. Пойдзем, але-ж. Пойдзем да Лук'яніхі,—згадзіўся Ціт з Андрэяваю прапановаю.

— Дык вось-жа: там і конь мой стаіць,—узрадаваўся Андрэй за Цітаву згоду.

— Пачаць галоўнае,—разважаў ён калі рушыліся з мейсца,—а там само пакажа.

— Душа меру знае,—прамарматаў Андрэй.

Там і тут па местачковых дарожках, якія былі абстаўлены вазамі, шпацыравалі маладыя пары.

Паўднёвая бель ламала вочы. Трымацела паветра.

Вунь хлопец давыпуску—з шырокім гальштукам з пад каўняра, трымаючы ў руках шапку,—выкручваўся, фанабэрыўся

перад местачковаю Ганнаю. Ганна-ж тое і мела на ўвазе—акідвала позіркам то сваю сукенку фальбоністую з белага бадысту, то хлопцавы кучаравыя смольныя валасы.

А вунь Сьцёпка сэльцерскаю вадою частаваў Алену, і яна разоў з пяць, мусіць, прыкладала губы да шклянкі—смакавала, сароміласл.

А там ішла цэлая сьцяна сплёўшыхся пад рукі дзяўчат, якія кідалі позіркі да незнаёмага для іх франта. Франт быў адзеты зусім па гарадзкой модзе; ён хадзіў адзін - нідакога не далучаўся.

Ня сьціхаў гоман.

Па дарозе, да Андрэявай капэліі, далучыліся яшчэ Давыд з Пракопам.

— Хіба нашы душачкі суконкі, ці што?!—разважалі яны ўваходзячы ўсе разам у Лук'янішыну хату.

Вельмі было накурана ў Лук'янішынай хаце. Пахла хлебнымі крошкамі, ды разьлітаю гарэлкаю. Густымі пластамі асядаў дым да долу. І калі ўвайшлі Лук'янішыны „госьці"—узварухнуўся дым, папоўз збэрсанымі пасмамі.

— Па бутэльцы на брата,—загадаў Андрэй,—калі расьселіся за сталом.

— Нясі, расплацімся,—падмацаваў Ціт.

Але Лук'яніха ведала гэтыя расплаты. Яна таксама пабажылася разоў дваццаць —казала што ўвесь яе заработак толькі на пасудзе.

Давід, які ня любіў гэтага таргаваньня, з гонарам выкінуў на пачын траячку і Лук'яніха зусім супакоілася—вышла з хаты.

Мужчыны закурвалі цяпер.

— Шмат узяў за карову,—запытаў Пракоп у Ціта,—прадаваў ці што?—дадаў ён.

І Ціт расказаў як ён чуць-чуць нацягнуў на сорак сем рублёў.

— Грошы, брат, патрэбны да зарэзу,—казаў Ціт далей.—У раёне як пазычыў на каня, дык яшчэ не аддаў. Трэйцяга абвестку прыслалі.

— А я падсьвінака, за дванаццаць рублёў—такога мяккага падсьвінака,—аддаў. Таксама на ўсялякую надабнасьць, так сказаць,—патрэбны,—сплюнуў у бок той самы Пракоп.

— Будзем жывы, будуць грошы,—уставіў Давыд.—Грошы, мрошы—разгладзіў ён кароценькую шчаціну сваіх вусоў.

— Ды табе што?—ты пастаіш каля кавадла раніцу,—заўважыў Пракоп,—вось табе і грошы. А ты вось як ня круці, дык шыварат навыварат выходзіць.

Мужчыны на момант змоўклі. У хату ўваходзіла Лук'яніха.

А цераз некалькі хвілін у Лук'янішынай хаце моцна гаманілі, сьпявалі нават.

---

Сутоньвалася.

Паціху хвалявала нагрэтае за дзень паветра. Сонца скрэбла пазалочаны крыж царквы. На мястэчку нікога ня было.

І толькі вячэрнія жукі парушалі маўклівасьць.

Толькі цяпер, з моцным гоманам, выходзілі мужчыны з Лук'янішынай хаты. Тут нейкім чынам былі Гарбуз з Перапечкам і яшчэ чалавек тры незнаёмых. Уся ватага, цяпер, была п'яная. Гутарка іх была моцная, працяглая, гаспадарская.

— Чо-о-ор-т,—цягнуў сваім басам Пракоп,—чо-о-ор-т... ты павінен узяць бутэльку—неадставаў ён тычучы кулаком у Гарбузоў нос.

— Ма-ікка-ла, ці што з твайго горла,—адпіхаў яго той.

— Кінь Пракоп,—угаварваў Перапечка,—даволі.

— Я ведаю, што вы а-мм-атары на чужое,—хацеў замахнуцца Пракоп. Але тут нешта здарылася.

Ціт, на якога ніхто не зьвяртаў увагі, так грукнуўся аб намошчанае каля ганку каменьня, што аж у нутры ў яго нешта ёкнула. Усе кінуліся на дапамогу.

Андрэй убачыў непяраліўкі. Ён кінуўся запрагаць каня. А цераз некалькі хвілін мужчыны ўзьдзябурылі Ціта на калёсы і Андрэй паехаў да хаты.

На другі дзень, калі Ціт прачнуўся на сваём ложку,—яму вельмі балела галава. Бы нешта падказвала яму, рупіла, калі устаў з ложку. Яму ўспомніўся ўчарашні кірмаш.

— Колькі-ж я прапіў,—палез Ціт у кішэню сваіх шарачковых портак.

Цітава сэрца чамусьці моцна білася.

Вывярнуў кішэні Ціт, вытрас і... грошай не знайшоў.

Замятусіўся сьвет.

Яскрава ўявіў Ціт свайго зямляка, з якім ён выпіваючы так цалаваўся. Лук'яніху ўявіў, якая раз-поразу бажылася. Гарбуза... Перапечку.

Усіх, з гаркачэчаю на душы ўспомніў Ціт.

# Японскі пісьменьнік Удзяку Акіта[1])

**Зьм. Сьнежка**



**Удзяку Акіта**

У сучаснай японскай літаратуры Ужаку Акіта займае значнае мейсца. Ён зьяўляецца кіраўніком левай літаратурнай плыні ў японскай літаратуры, якая завецца „Кайхоха"(„Вызваленьне") і выдае часопісь пад такой самай назваю. Ужаку Акіта зьяўляецца адным з папулярных пісьменьнікаў у Японіі.

Нарадзіўся пісьменьнік у паўночнай Японіі ў акрузе Аоморы-кэн. Ужаку Акіта лічыць сабе ня прыродным японцам, ён паходзіць з племя айносаў, якое раней жыло ў Японіі, а цяпер зусім зьнікла.

Ужо ў маладых гадоў ён на сваёй сьпіне ўбачыў усю „прыгожасьць капіталістычнага ладу."З малых гадоў ён пачаў зарабляць сабе грошы, каб не памерці ад галоднай сьмерці. Гэта выхавала в Ужаку Акіта—добрага рэвалюцыянэра-пісьменьніка.

У 1916 годзе ён скончыў ужо Васедаскі Народвы Унівэрсытэт з якога вышла шмат рэвалюцыйных літаратурных дзеячоў.

Унівэрсытэт яшчэ больш загартаваў у ім рэвалюцыйнасьць і нянавісьць да двух ворагаў працоўных—мілітарызму і капіталізму.

Пісаць пачаў Акіта ўжо ў 1907 г. Першы яго твор драма „Пахаваная вясна"—малюе змаганьне паміж двума народамі—рускім і японскім.

Пасьля ён напісаў некалькі другіх драм як: „Тры душы" „Сьмерць буды", „Бажба", „Два Сонцы".

З апошніх яго твораў трэба адзначыць „Скок шкелетаў", „Ноч на дзяржаўнай мяжы" і „Эпоха бязьлітаснага зьнішчэньня дзяцей" Гэты твор Ужаку Акіта надрукаваны ў часопісі „Гакан" выклікаў у Японіі многа шуму. Гэты твор быў напісаны пад уражаньнем забойства японскага анархіста Осугі

Акіта Ужаку ня толькі пісьменьнік—драматург, але і грамадзкі дзеяч. Ён з унівэрсітэцкай лаўкі зьвязаў сваё жыцьцё з левымі палітычнымі плынямі. У часе Кастрычнікавай рэвалюцыі ў нас ён зусім открыта пачаў выказываць сваё спачуваньне да яе, ня гледзячы на тое, што такія думкі у Японіі ня вельмі прыемны для паліцыі.

Крыху пазьней ён арганізаваў таварыства Начыра-Гэйдзюцу-Кіокай—(Японa-Савецкае Літаратурна-Мастацкае Таварыства), якое мае вялікае значэньне для культурнае сувязі Японіі з СССР.

Ужаку Акіта, як пісьменьнік драматург займае значнае месца ў гісторыі японскага тэатру. З 1916 году ён працуе ў тэатры Гэйдзюцудза, а з 1924 ён пераходзіць ў Малы Тэатр Цукідзі.

Ужаку Акіта першы з японскіх пісьменьнікаў падняў свой голас за сувязь з Сав. Саюзам.

Ужаку Акіта прыехаў ужо ў Сав. Саюз, дзе знаёміцца з літаратурай і культурай розных нацыянальнасьцяй Сав. Саюзу.

Тое, што я ўбачыў зрабіла з мяне цьвёрдым абаронцам Сав. Саюзу, бо толькі ў ім магчымы такі шпаркі рост культуры" словы Ужаку Акіта.

Ужаку Акіта каб азнаёміцца з культурным жыцьцём БССР, неўзабаве прыязджае ў Менск.

[1]) Матар'ял для гэтага артыкулу атрыман ад самога пісьменьніка.

# Агляд вершаў надасланых у рэдакцыю „Чырвонага Сейбіта“

Пятро Глебка

## II. Рытміка вершу

У мінулых нумарох мы спыняліся больш на зьмесьце вершаў, а зараз пяройдзем да разгляду іх фармальна-мастацкага боку і, першым чынам, рытму.

Беларускія вершы складаюцца па прынцыпу чаргаваньня націскных і ненаціскных складоў, гэта значыць, што адзін націскны склад адмяжоўваецца ад другога пэўным і сталым для гэтага вершу лікам складоў ненаціскных. Гэтая пасьлядоўнасьць націскных і ненаціскных завецца памерам вершу. Для прыкладу возьмем верш В. Вітко „Расстрэл камунара“—

„Дзень усьміхаўся вясьне,
Сумам сасоньнік шумеў“...

Тут склады, як у першым, так і ў другім радку, чаргуюцца так: націскны, два ненаціскныя, націскны, два ненаціскныя, націскны. Як бачым памер вершу правільны, бо націскны склад адлучаецца ад другога націскнога двума ненаціскнымі. Чаргаваньне націскных і ненаціскных складоў можа быць і іншае, як напрыклад, у вершы Стрыгельскага—

...„Узбуджана словам тваім
Юнацкім імкненьнем кіпела“...

Тут чаргаваньне складоў такое: у першым радку—ненаціскны, націскны, два ненаціскных, націскны, два ненаціскныя і націскны; у другім—ненаціскны, націскны, два ненаціскныя, націскны, два ненаціскныя, націскны і ненаціскны. Як бачым, тут, як і ў першым прыкладзе, націскны адлучан ад другога націскнога, таксама двума ненаціскнымі, а зьверх таго—першы радок яшчэ і пачынаецца ненаціскным, а другі—і пачынаецца і канчаецца. Чаргаваньне можа быць самае рознастайнае: націскны склад можа адлучацца ад чарговага націскнога адным ненаціскным, двума (як у дадзеных прыкладах), трыма і г. д.

У дадзеных вышэй прыкладах памер вершу вытрыманы. Ёсьць-жа шмат вершаў, асабліва сярод тых, што аднесены да першай катэгорыі, дзе памер ня вытрыманы. Напрыклад, верш Ксяндзова „Летні дождж“—

„Дома сядзіш, а сон морыць,
Здаецца—лёг-бы і вельмі засную.
Ну, скора хмары перагоняць
І ў поле нядолю скашу“.

Тут мы маем чаргаваньне складоў такое: у першым радку—націскны, два ненаціскныя, націскны, два ненаціскныя, націскны і ненаціскны; у другім—ненаціскны, націскны, ненаціскны, націскны, два ненаціскныя, націскны, два ненаціскныя і націскны; у трэцім—ненаціскны, націскны, ненаціскны, націскны, ненаціскны, націскны, ненаціскны, націскны, ненаціскны; у чацьвертым радку—ненаціскны, націскны, два ненаціскныя, націскны, два ненаціскныя і націскны. Як бачым, у гэтым вершы ў кожным радку іншае чаргаваньне, а ў другім радку, нават, націскныя склады адлучаюцца няроўным лікам (1 і 2) ненаціскных. Гэты памер неправільны і рытму тут няма. Так пабудована вельмі і вельмі шмат вершаў вясковых аўтараў першай, ды, нават, і другой катэгорый. Парада ім адна—трэба больш павучыцца, каб умець разрозьніваць націскныя і ненаціскныя склады, а тады яны змогуць гэтыя склады правільна чаргаваць.

Націскны і адзін, ці некалькі ненаціскных складоў, што прылягаюць да націскнога завуцца стапою. Ня буду крануцца якія бываюць стопы і памеры, я спынюся толькі на злучэньні стопаў. Не абавязкова каб кожны радок вершаў меў адзін і той-жа лік стопаў. Нават іншы раз верш гучыць званчэй, калі ў адным радку больш ці менш стапоў, як у другім. Напрыклад, у вершы Калечыца „Сасна“—

„У полі шырокім, у полі замёрзлым,
Нібы ў пустыні якой“...—

Першы радок чатырохстопавы, а другі —трохстопавы. Поэт выбірае памер і злучае стопы адпаведна зьместу вершу.

Вышэй мы сказалі, што калі націскны склад адлучаны ад другога націскнога на працягу аднаго радку не аднолькавым лікам ненаціскных складоў, дык памер неправільны і верш ня мае рытму. Аднак тут бываюць выключэньні.

Чытаючы верш, мы пасьля пэўнага слова робім прыпынак, які завецца цэзураю. Напрыклад, у вершы таго-ж Калечыца ў радку „Што засьвяціла з блакітнага неба", пасьля слова „засьвяціла" мы пры чытаньні робім прыпынак (цэзура). Гэтаю цэзураю радок як-бы разьбіваецца на два. І вось пасьля першай часткі радку ці ў прамежку цэзуры можа не хапаць патрэбнага ліку ненаціскных складоў, а можа быць іх болей. Але гэта ня псуе рытмічнасьці, а яшчэ павялічвае яе, калі цэзура стаіць на пэўным месцы на працягу ўсяго вершу. Прыкладу на гэты выпадак сярод вершаў вясковых аўтараў не сустракаецца. Я ўпамянуў аб гэтым толькі таму, каб ня думалі што *абавязкова* націскны ад другога націскнога складу павінен адлучацца на працягу радку адным і тым-жа лікам ненаціскных складоў. Можа першы націскны адлучацца ад другога двума ненаціскнымі, а другі ўжо націскны ад трэцяга (калі там цэзура) трыма, але гэткі парадак павінен быць вытрыман на працягу і іншых радкоў, на працягу ўсяго вершу.

Правільнай пабудовы памеру яшчэ ўсё-ж мала для таго каб верш гучэў звонка, гарманічна. Для большай рытмічнасьці вершаў неабходна ўмела злучаць стопы, будаваць радкі рознастайна, гэта значыць, што націск стопавы не абавязкова павінен адпавядаць граматычнаму, ці лепей сказаць, што ў слове граматычны націск адзін, а стопавых можа быць і болей, як напрыклад: „ну,—скора хмары перагоняць". Тут у слове „перагоняць" граматычны націск адзін на складзе „го", а стопавых два—на „пе" і „го". Можа быць так-жа што слова граматычны націск мае, а стопавага не. Напрыклад—

„Зробім мы многа—
Шмат гэтай сілы"
(Верш Гладкага „Выйдзем у поле").

Тут на слова „гэтай" граматычны націск падае на склад „гэ", аднак стопавага націску на гэтым складзе няма.

Ня можна толькі ніколі ўжываць слова так, каб яго граматычны націск пераходзіў на другі склад, як у вершы Корбута:

„За сталом сядзіць Гаўрыла,
А з боку Мікіта",

дзе для рытму націск у слову „з боку" прыходзіцца ставіць на „у".

Нядобра, калі стопавы націск падае на асабовы займеньнік, ці на прыназоўнік. У вершы Жызьнеўскага мы гэткі выпадак знаходзім—

„Но, гняды, хутчэй імчыся
Да прыземістых прысад"

і другі радок гучыць нацягнута, бо націск падае на прыназоўнік „да". І так, рытмічнасьць дасягаецца правільным памерам, рознастайным злучэньнем стопаў, звонкім і рознастайным злучэньнем слоў, перапынкаў і г. д. Наагул-жа цяжка вывесьці тут пэўныя яскравыя правілы. Пачынаючы поэт павінен перш за ўсё ўважліва прыслухоўвацца да вершаў вялікіх поэтаў. Без агульнай начытанасьці ніякая тэорыя не дапаможа напісаць звонкі, рытмічны, мастацкі верш.

# ШТО ЧЫТАЦЬ

## Тарас Гушча—Якуб Колас—У глыбі Палесься. Аповесьць. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1927.

Разгляданая аповесьць „У глыбі Палесься" зьяўляецца дакляраваным і чаканым працягам папярэдняе Коласавай аповесьці „У палескай глушы". Як такі працяг, яна разгортае перад чытачом далейшае жыцьцё і дзейнасьць знаёмага ўжо яму з папярэдняй аповесьці вясковага настаўніка Лабановіча. „У глыбі Палесься" бадай што толькі гэтым і зьвязуецца з папярэдняй аповесьцю. Праўда, гэтае жыцьцё і дзейнасьць Лабановіча „ў глыбі Палесься" абмалёўваецца перад намі толькі ў другім падразьдзеле аповесьці—„На новым месцы",—да якога найбольш і падыходзіць назоў „У глыбі Палесься". Перша-ж падразьдзел,—„На бацькаўшчыне"—як-бы й ня мае права быць, так сказаць, пад дахам аднаго назову з другім раз Лабановіча ў дому, у час летніх вакацый і дадзены аўтарам толькі для паўнаты хронікі Лабановічавага жыцьця і ягонае характарыстыкі. У такім выглядзе ён выяўляецца як-бы пераходным колцам, якое завязвае першую і другую аповесьці.

Калі пра папярэднюю аповесьць крытыкай ужо адзначалася, што яна выяўляе з сябе як-бы дзьве карціны—асабістага жыцьця Лабановіча і жыцьця сялян-паляшукоў настаўнікаў і інш., заложаныя адна на другую, дык пра разгляданую аповесьць можна сказаць, што гэтыя карціны ўжо зьліваюцца ў адзін, суцэльны вобраз. Праўда, у першым зазначаным намі, як пераходны, падразьдзеле мы яшчэ й маем палажэньне, Лабановіч усё адчувае сябе ч..жым сялянам і тры-

маецца да іх крыху чулавата, роўна як і яны да яго (глядзі асабліва разьдзел X), але ў другім разьдзеле, праз пасярэдніцтва настаўніцы-рэвалюцыянэркі Вольгі Віктараўны і селяніна Аксёна Каля, пачынаецца ўжо зьбліжэньне іх, зьліцьцё абодзьвюх карцін.

Лабановіч—тыповы для беларускага адраджэньня вобраз сялянскага выхадца, які звычайна адчувае сябе адарваным ад роднага грунту знаходзіць у аповесьці для сябе як ужо адзначалася, новыя пункты дотыку з гэтым грунтам. Новыя ідэі, якія былі выпадкова закінуты яму эсэраўскаю брошуркаю і пасьля падагрэты славамі Вольгі Віктараўны, дапамагаюць яму канчаткова перамагчы сваю ранейшую рэфлексыйнасьць і з шляху самааналізу перайсьці на шлях актыўнай дзейнасьці сярод сялянства.

Пачаткам гэтае дзейнасьці Лабановіча зьяўляюцца гутаркі, а пасьля і навучаньне грамаце перадавога селяніна Аксёна Каля, які, як характарызуе яго сам Лабановіч, мог-бы быць „строгім пракурорам за грамадзкія справы...“ або „ўдалым атаманам разбойніцкай шайкі, бязьлітасны помстнікам за сялянскую крыўду“ (ст. 105). Разам з гэтым „атаманам“ Лабановіч прыймае актыўны ўдзел у сялянскім бунце, у пэтыцыі да абшарніка Скірмунта, які скрыўдзіў сялян, адабраўшы ў іх іхнія ўжыткоўнасьці (тові) і на якога яны нідзе не маглі знайсьці ўправы (самы эпызод гэты крыху нагадуе ранейшае Коласава апавяданьне „Нёмнаў дар“). Усё гэта выстаўляе ягоную постаць у зусім новым сьвятле, а жудасны водбліск японскае вайны—пярэдадня 1905 году—яшчэ больш адцяняе гэтае асьвятленьне.

Апрача Любановіча, Вольгі Віктараўны і Аксёна Каля, ёсьць у аповесьці яшчэ цэлы шэраг другародных тыпаў.

Усе гэтыя тыпы вытрыманы, пераважна ў бытавым пляне са звычайным для Коласа мастацтвам хоць і наогул зьяўляюцца для аповесьці эпізодычнымі.

Чытаецца аповесьць, як звычайна, лёгка, з цікавасьцю. Праўда, пачатку і наогул, першаму падразьдзелу можна закінуць некаторую вялаватасьць у выкладзе, якая ажыўляецца сцэнамі з жыцьця Панямонскае інтэлігэнцыі, а ў другім падразьдзеле зусім зьнікае. Найбольш удалымі як заўсёды ў Коласа, выходзяць гутаркі, у якіх абмалёўкі быту даходзяць да нядзвычайнае дасканальнасьці, лірычныя абыходы зрэшты рэдкія ў дадзеным творы, крыху абцяжае сынтэтычны стыль (кругасказы—пэрыяды, асабліва ў самым пачатку аповесьці). Гумар Коласаўскі на месцы, хоць часам аўтар і крыху перасольвае у бок вульгарызму („або проста з ім зробіцца нешта такое, чаго ў царкві ня можна рабіць“—пра пісара Дулебу, які надзвычайна голасна і з вялікім напруджаньнем чытаў „Апостала“). Мова лёгкая, зразумелая і чыстая хоць здараюцца й некаторыя недагляды („златарунныя“, „папроку“, „тамленьня“, „затарапіўся“ „смрод“, „цёнгле“, „тры нядзелі“, „у сэнсе“ „тыдні“ і ў зваротах—„Зяязюльскі прышоў ужо выпіўшым“ заміж „выпіўшы“ „блага стаража добры знаёмы“, „блага Нёман быў, як кажуць, пад самым бокам“ заміж „блізэ“ і інш.).

Аповесьць зьяўляецца каштоўным укладам у нашую літаратуру.

Выданьне кніжкі, яе водкладка і інш.—амаль-што бездакорныя. **Ант. Адамовіч.**

# Паштовая скрынка

**Паводле раней зробленага падзелу, да першай катэгорыі аднесены вершы наступных таварышоў:**

Губка Ц. М., Серада Д. Я. Бярозкін Я., Чорны П., Купрыянаў Р., Крыгер М., Юк У., Чаган Л., Пісарчык У. П., Ламака, Гуцаў, Доліч М., Катужэнец, Агейчык, Корбут, Ксяндзоў, Казлоў, Осіпчык, Трушкевіч, Зяневіч, Купрыянчык, Адамчык А., Азярыцкі, Ермак Хв., Рудзік А., Ружовы А., Сьмірноў У., А. Г. Доўнар, Гульба, Кавалёў, Піхейчык, Малашонак, Кржачкоўскі, Вайтовіч Я., Шыман, Касьцюк Я., Сарока, Карпечэнка, Старавойтаў, Моніч Я., Вока, Міхасёў, Яблонскі, Архіп, Кук, Рабчонак, Бардоўскі, А. А. А., Маладая Бярозка, Пецюкевіч Я., Казей, Прудвік, Бунтар, Верашчака, Багун, Гарэтны, Воран, Маркоўка А., Зорка, Клім, Бурачок, Моўчан, Канапелька, Якаўлеў В., Ваўновіч, Вяргейчык, Смалякоў, Лаўнік, Шэмпель, Янцэвіч, Чужы, Залецкі Я., Абрамовіч, Лаўрык В., Стальны, Крыга Сасноўскі, Фалькоўскі, Хурсік А., Ліпняк, Палын К., Валевіч А. К., Падабед, Мімоза А., Верабей, Дрычок, Кульпановіч, Ярмак У., Клім Нямой, Шэлях, Германовіч, Саўзнак В., Заяц А., Кравец, Вірок А., Смутны М., Доўбня, Бягун С., Малевіч А., Камейка, Кулакоўскі, Дзеркач М., Гарпазінскі, Н. Ф—к, Дыбоўскі, С. А. Доўнар, Радкевіч, Васілец А., Барон Н., Косьцеж, Духвалаў Д., Шыкіра, Піонэрскае Пяро, Дбалы, Гурыновіч А., Сакавец, Селіванаў, Сноп, Навіцкі, Сакольчык, Базыль і Янка, Гаварушка, Розьніцкі, Валяк, Малінік, Макавец, Вярбіцкі, Новікаў, Галубовіч, „Оса“, Чэркас, Баркоўскі, Лютчык, Блізьнюк, Барысэвіч, Каі-Мілка, Пратасеня, Ліпнік, Мікуліч, Бачыла, Нямковіч, Цыбуля, Асака, Янка Бор, Матусевіч, Куракевіч М., Куніцкі, Цыркун, Кузьняцоў, Бярозка, Усс. В., Ліпніцкі, Вінцэвіч, Цікавы, Венчык, Няборскі, Парашкаў, Ю—И., Карпіловіч, Д—к Ю. А., Размысловіч, Пырнік, Ванчукевіч, Галанаў, Залатарэвіч, Семашка, Каплеўскі, Ліла, Гольдшмідт Р., Кандрусяў, Загарэўскі, Плюгачэўскі, Пчолкін, Астроўскі, Казлоўскі, Балаховіч, Гладкі, Крушына, Пыж, Жвіровы, Гуцько, П. Ю. С., Каліна, Чарэшня, Вячэрні А., Прахорчык, Крук, Камсамольскае Вока, Махнач, Чашчавік, Кіклевіч, Вайкоўскі, Скрыпач Нізкі, Якімовіч, Турэцкі, Шырынец, Кандыбовіч, Жыгучка, Сухоцкі, Шыкін, Баркун, Макаеў, Цяцеркін Лобач, Каранец, Дуброва, Чарнявы, Знакомы, Тутэйшы, Ціхі, Сліўка, Латушка, Траўка А., Бяроза, Блюмін, Дукравец, Трус М., Апановіч, Пятрусь з палёў, Сіткевіч, Лазгуноў, Шэшка, Потанейка, Мажутка, Цьвік, Лукошкаў, Руды, Ермаловіч, Мамчыц, Галінка, С. А., Міхайлоўскі, Кулік, Глаголяў, Гурчонак, Селянін з вёскі Каменка,

Заблоцкі, Колас, Жук, Піскун, Байкоўскі, Гарадзецкі, Дубоўскі.

Вершы ўсіх пералічаных таварышоў друкавацца ня будуць. Здольнасьці да пісаньня вершаў пакуль што ў іх не адчуваецца. Каб пісаць вершы, гэтым таварышом трэба больш падвучыцца, пачытаць мастацкай літаратуры. Аб вершах гэтай катэгорыі глядзі ў „Чырвоным Сейбіце“ № 18—19 за 1927 г.

**Да другой катэгорыі аднесены вершы наступных таварышоў:**

Мароз Я., Крайка А., Кузьміцкі К., Новікаў С, Сушкевіч Я., Кавалеўскі Я., Жалейка П., Бародка П., Ганчароў К., Хамец, Вольны, Зэт, Залатарэвіч, Шпілька, Хвошч, Іпалітаў, Паваротны, Атава Я., Жукаў Ф, Крэнес, Вішнякоў, Шайкоўскі, Бяздольны, Дум-Бэйль, Доўгапольскі, Аўдзюшка, Малюкевіч, Сівадзедаў Селях, Вясёлы Я., Ручаіна, Кохан Я., Ракіта С., Рамашка, Роўны, Міхайлоўскі. Я. Вясноўскі, Кадрылька, Выля, Кісялёў, Дзяцел, Жалуновіч А, Паляшук Б, Зяньковіч М, Крыловіч, Завіляй, Жызьнеўскі, Мудры М., Радкевіч, Мінін, Бальцэвіч, Янка, Лобан, Верасок, Лілай Н., Хрысьціціч, Лаўрык І. М., Зялёны, Гарбуз, Панамароў, Ялзовіч, Гарбаткоўскі, Т. Ж, Цукала, П. Ніва, Барановскі, Дубок А., Назарчык, Дудар К., Галацкоўскі, Шутэрнік, Упарты У, Васілёк, Карчэўскі, Турцэвіч, Макаронка, Бітус, Калугін, Лебеда, Вярба, Русецкі, С. Асот, Быкаў, Наркевіч, Таратутка, Смык, Быкаўскі, Вярнікоўскі, Жур А., Чарнушэвіч, Цімінскі, Мастачок М., Скуратовіч, Шыдлоўскі, Штанюк, Паўлоўскі, Багун, Шыла, Каржак, Імшарына, Шумлівы З., Стрыгельскі, Кіяш В., Галуза, Сяк, Ліпень, Сапун, Далекі, Ланіч, Калечыц, Хмара, Ц. Н. Буйко Шахма, Корзун, Гравінка, Міранос Зарэмба, Стэльмах, Камлюк, Шавель, Лясоўскі, Зарэчны, Баравік, Шаірка, Доўгі, Вясковы, Ярын, Гайка, Акуліч, Адамчык, Сушынскі, М. С. Шычка, Водгук, Зеляноўская Т., Ільлюшэнка, Водгук-Гарцэвіч, Зрэбны, Палеская Асака, Беразоўскі, Асташкевіч, Мазанік, Анішчук, Стэльмашук, Камейка, Дубанін, Станкевіч, Варанецкі, Вашкевіч, Кулеш, Русак, Пліско, Кулік, Валасэвіч, Сікорскі, Веразьняк, Зайкоўскі, Чарапаха, Гаенскі, Выздроцны, Ельнік, Кветка, Кляеўскі, Гурэцкі, Карцель, Маркулаў, Шыкун, Гудок, Верас, Азевіч, Глыбокі, Сташэўскі, Салаўёў, Ландорскі, Русы А., Міхалка, Яўгушэўскі, Галаўня, Хвойка.

У гэтых таварышоў здольнасьці ёсьць, але шмат яшчэ трэба працаваць Аб недахопах вершаў і парадах аўтарам другой катэгорыі чытай у „Чырвоным Сейбіце“ № 18—19 за 1927 г. Вершы друкавацца ня будуць.

Жаўруку, Івашыну, Астапенку, Таўбіну, Вішнякову, Шыбко Т., Казлоўскаму В., А. Гладкаму, Фаміну, Казаку, Шышкевічу. Ліхадзіеўскаму, Хацкевічу, Чаромху, Пятухоўскаму— вашы вершы паступова будуць друкавацца.

Федарынчыку, Лукашову, Дудзінскаму, Кісялю Шэраму Е., Лагунову, Дунцу. Барташуку. Каміненку—вершаў на расійскай мове ня друкуем.

Адказы на новыя вершы тым таварышам, якім даваліся адказы ў мінулых нумарох „Чырвонага Сейбіту“, дадзены ня будуць, бо заганы ў нядаўна надасланых вершах тыя-ж самыя.

Адказны рэдактар Р. Шукевіч-Трацьцякоў.



Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 15.000.